# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 44 (1590) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 2 ЛІСТАПАДА 1986 г. ЦАНА 10 зл.

## Дзе першы раз спазнала шчасце...

Вось і прыехала! Выйшла я з асаблівага поезда Беласток-Зубкі. Тут, ведаеце, усё асаблівае. Поезд гэты можа затрымацца ў чыстым полі. Папросіш машыніста — і затрымае паравоз. Ад Валіл да Зубкоў затрымаліся тры разы. Адны пайшлі ў грыбы, іншым было бліжэй дахаты. Усе тут сваякі!

Ужо Зубкі. Цяпер трэба ісці шэсць кіламетраў. Дарога прыемная: зараз будзе лес, поле, лес і поле, і ўжо сяло. А паветра якое! Хоць вазьмі і ўдыхай, і здаецца, што яго не хопіць. А яно ёсць і ёсць, і ўсё такое свежае.

На двары восень. Залатое, чырвонае, зялёнае — каляровае-каляровае лісце шамаціць і шамаціць.

На палях некаторыя яшчэ аруць. Дзе-нідзе выйшла ўжо светлазялёная азіміна, смела выглядае яна з зямлі і меніцца ўсялякімі колерамі на сонцы.

Мінула пожню, далей — горка. З горкі паманеньку пачынаюць паказвацца найперш гумны, а пасля хаты. Гэта ўжо Свіслачаны. О, нейкі гаспадар арэ. Трэба яму сказаць „Бог помач", так як дзяды і бацькі нас вучылі.

Пры ўваходзе ў вёску стаіць высокі драўляны крыж. Ніхто ўжо не памятае, калі ён быў пастаўлены, нават дзядулі... Яшчэ зусім нядаўна такія крыжы былі з усіх канцоў вёскі, цяпер яны ўжо развальваюцца. Раней, як прыходзіла нядзелька, а ўжо як якое свята, то вельмі многа народу ў царкву ішло. Мастаўлянскі прыход вялікі. Некаторым людзям, што жылі далей ад царквы, па некалькі, а то і больш кіламетраў даводзілася прайсці да царквы. Тыя, аднак, што хадзілі, пастарэлі, а моладзь перастала хадзіць.

Цяпер тут інакш. Людзі разбагацелі, распанелі. Моладзь уцякае ў горад. Дзе ж ёй на вёсцы жыць! Пакончалі школы і там на работу пайшлі. Калі прыязджаюць да бацькоў, то дзівуюцца: „Наша вёска? А чым жа яна харошча ад другіх?"

Харошая яна... Там дзяцінства маё праплыло і кусок маладосці. І хаця было нялёгка, то на ўспамін пра тыя гады робіцца на сэрцы цёпла.

Гэта ўжо канец Польшчы. Амаль граніца. Калісьці ў сяле было поўна людзей. Ад зоркі да цямна звінела яно работай і песнямі. Яшчэ як я была малая, было там так цёпла, прыемна, весела. Але ўжо тады некаторыя пачалі выбірацца ў горад. І наша вёска памаленьку пусцела і заціхала. Да сёння памятаю, як дзед мне гава-

(Працяг на стар. 6)



*Фота М. Гайдука*

## ДА ЗЕМЛЯКОЎ

Не вырывайце вербаў,
Зялёнымі праменнямі якіх
Зрадnёны сэрцы продкаў і нашчадкаў.

Не трушчыце ляскоў і пералескаў —
Яны ратуюць душы ад пустыні.

Не нішчыце магільных курганоў,
Не сейце на іх жыта:
Баюся — вырасце на іх
Прагорклы хлеб бяды.

Не разбурайце спадчынных мастоў —
Па бездаражы
Шчасце не прыходзіць.

Не перакопвайце дарог спрадвечных —
Не пазбаўляйце Будучыні крылаў.

**Ніна Загорская**

## Міхась Чарот — паэт буры і напору

Сёмага лістапада 1986 года споўніцца дзевяноста гадоў з дня нараджэння аднаго з найбольш вядомых паэтаў паслярэвалюцыйнай Беларусі Міхася Кудзелькі, які ўвайшоў у літаратуру пад псеўданімам Міхась Чарот. Паходзіў ён з сялянскай сям'і з вёскі Рудзенск, Пухавіцкага раёна, Мінскай вобласці. Належаў ён да тых рэдкіх сялянскіх дзяцей, якім удалося яшчэ да рэвалюцыі паступіць у Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю, дзе ён вучыўся з 1913 па 1917 год. Калі ён закончыў гэтую школу, быў мабілізаваны ў царскую армію. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі дэмабілізаваўся ў 1918 годзе. У часе знаходжання ў Мінску войск Пілсудскага прымаў удзел у падпольным руху.

Пасля канчатковага ўстанаўлення Савецкай улады пачалася хуткая кар'ера Чарота як пісьменніка і грамадска-палітычнага дзеяча. Ужо ў 1920 годзе Чарот уступіў у рады Камуністычнай партыі Беларусі і ў хуткім часе стаў адным з найбольш дынамічных культурна-палітычных дзеячоў сярод беларускіх пісьменнікаў. Ад 1920 года супрацоўнічаў з газетай „Савецкая Беларусь", а ў гадах 1925-29 быў яе рэдактарам. Быў ён ініцыятарам і галоўным арганізатарам вядомай літаратурнай арганізацыі „Маладняк", якая вяла бескампрамісную барацьбу з усімі тымі з'явамі ў беларускай літаратуры, якія лічыла кансерватыўнымі і адсталымі. Калі ў пачатку трыццатых гадоў пачала нарастаць вядомая атмасфера, звязаная з культам асобы, Чарот безварункова падтрымаў новыя тэорыі і новыя практыкі. Калі былі праведзены арышты (часта сярод яго былых сяброў-маладнякоўцаў), паэт, горача верачы ў слушнасць рэпрэсій, напісаў гнеўны верш пад як жа вымоўным загалоўкам „Суровы прыгавор падпісываю вершам". Такім чынам парываў раз і назаўсёды з тымі, з кім звязаў яго раннемаладнякоўскі лёс. Аднак жыццёвы лёс аказаўся выключна каварны, і ў 1938 годзе паставіў Чарота ў тую ж драматычную сітуацыю, у якой апынуліся яго сябры ў пачатку 30-х гадоў, сябры, якіх ён асудзіў вз ўспомненым вершы. Чарот, нягледзячы на тое, што на некалькіх чарговых з'ездах КП(б)Б выбіраўся кандыдатам у члены

(Працяг на стар. 5)

## Дапамагчы школе

### З рэпарцёрскіх запісак

Спецыялісты падлічылі, што ў 1990 годзе на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства пачатковую школу закончыць 10100 вучняў. Але зараз у амаль 300 пачатковых школах вучыцца тут звыш 80 тысяч дзяцей. Якія ўмовы маюць яны ў гэтых школах?

Даволі цяжка адназначна адказаць на гэтае пытанне. Нейкую агульную арыенціроўку дае паказчык, які адлюстроўвае колькасць змен у школе, гэта значыць, ці ўсе дзеці вучацца на адну змену, ці гэтых змен бывае больш і школа працуе таксама пасля абеду. Для вясковых школ Беластоцкага ваяводства гэты паказчык вызначаецца лікамі 1,13, а для школ гарадскіх павялічваецца ўжо да 1,5.

Вывучэннем стану асветы ў гмінах усходніх раёнаў Беласточчыны займаўся ў 1985 годзе Цэнтр навуковых даследаванняў у Беластоку. У апублікаванай апрацоўцы сцвярджаецца: *„Грамадская інфраструктура ў асноўных сваіх паказчыках, якія паддаваліся вывучэнню, характарызуецца шматлікімі, часта глыбокімі недахопамі, па прычыне якіх узровень жыцця вясковага насельніцтва, пражываючага на ўсходняй тэрыторыі Беласточчыны, з'яўляецца намнога ніжэйшым ад гарадскога насельніцтва. Дашкольным выхаваннем, для прыкладу, карыстаецца ў гэтых раёнах 65 прац. гарадскіх дзяцей і нейкіх 35 прац. вясковых дзяцей.* Гэта

(Працяг на стар. 1)

## НА мяжы

# АБ ЛЮБОВІ (1)

Ёсць яшчэ ў беларускіх вёсках катэгорыя людзей, беспамятна адданых зямлі. Мабыць, гэта ўжо апошняя генерацыя тых беларусаў, для якіх зямля, гаспадарка была не толькі тым, што запэўнівае чалавеку матэрыяльны быт, але і свайго роду рэлігіяй, духоўнай стравай. Адзін з жыхароў вёскі Лука, якая зараз ліквідуецца, бо трапіла яна пад валасховішча Семяноўка, калісьці заглядзеўшыся на загоны, як бы ў забыцці сказаў мне: „Як жа не любіць гэту зямлю. Яна ж мне пахне“. Вось у гэтых словах і праяўлялася свайго роду веравызнанне нашых дзядоў, бацькоў. У сувязі з тым, што я ў даны момант займаюся апрацоўкай зямлі, памагаючы сястры, выконваю нараз і найцяжэйшыя сялянскія работы, вельмі часта сустракаю маладых сялян, якія не толькі са здзіўленнем, але амаль са злосцю насміхаюцца над маім захапленнем зямлёй. Не гавару тут ужо аб велізарнай катэгорыі новаспечаных нашых мяшчан, якія выехалі ў гарады. Адзін з іх крыкнуў пры мне свайму сыну: „Artur nie podchodź do konia, bo koń śmierdzi“. Зразумела, што такі ніколі не скажа, што яму зямля пахне, хутчэй скажа зусім штосьці іншае. Мабыць, гадоў пятнаццаць таму назад памёр у Міхнаўцы-Ляшуках гаспадар, які называўся Грыцуком. Памёр ён беспатомна. Грыцук меў каля пяцідзесяці гектараў зямлі. Такой вялікай гаспадаркі ў нашых аколіцах не меў ніхто. Не ведаю дакладна, як Грыцук жыў матэрыяльна, ведаю аднак, што ўсё жыццё працаваў страшэнна многа, бо вядома, як трэба працаваць, маючы пяцьдзесят гектараў зямлі і не маючы машын. Гадоў дваццаць пяць таму назад Грыцук у нейкай там справе прыйшоў да майго бацькі. Запамятаўся мне адзін фрагмент іх размовы. Вось ён:

Бацька: — Навошта вам мучыцца, прадавайце кожны рок па гектару зямлі і жывеце па-панску.

Грыцук: — Што вы, Андрэю, мне гаворыце?! Я думаю, як тут яшчэ дакупіць, а не прадаць. Як жа гэта ўзяць і прадаць? Зямля святая.

Я думаю, зрэшты, што мой бацька таксама ўсё жыццё думаў і ў ніякіх акалічнасцях зямлі не прадаў бы.

Сёння вялікая колькасць людзей не можа дачакацца так званага эмерытальнага веку і стараецца як найхутчэй пазбыцца гаспадаркі. Аднак не аб іх я хачу тут гаварыць. Наадварот, хачу сказаць аб тых, якія даўно маглі б перадаць дзяржаве гаспадарку, бо маюць па 65, а то і па 70 гадоў, але гэтага не робяць. У далейшым цяжка працуюць, аруць, сеюць, косяць, гадуюць кароў і свіней. Прыносяць карысць дзяржаве, гэта значыць грамадству, большую, чым сабе. Гэта людзі самаахвярныя і па свайму нутру прыгожыя. Гэта яны соль нашай зямлі. Гэта дзякуючы ім трымаецца ў нашых вёсках беларуская і адвечная этнічная спецыфіка.

Зямля некаханая не родзіць. На жаль, такой некаханай зямлі ўсё болей, бо людзей, у яе закаханых, усё меней. І таму, калі іду або еду па Беласточчыне і бачу пажылога мужчыну ці жанчыну ў полі, на лузе або пры жывёлах, сэрца маё залівае хваля ўдзячнасці. Гэта тыя людзі, якім конь не смярдзіць, а зямля пахне. Дзякую вам, пажылыя беларусы. Без вас наша зямля становіцца сіратою.

**А. Барскі**

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### У БЮРО ЦК КАМПАРТЫІ БЕЛАРУСІ

У снежні 1983 года Бюро ЦК КПБ прыцягнула да строгай партыйнай адказнасці і вызваліла ад займаемых пасад асобных кіраўнікоў праваахоўных органаў за меўшыя месца грубыя парушэнні сацыялістычнай законнасці. Праведзенай у апошні час праверкай устаноўлены дадатковыя факты неабгрунтаванага прыцягнення асобных грамадзян да крымінальнай адказнасці за рад цяжкіх злачынстваў, учыненых у Віцебскай вобласці.

У прынятай пастанове адзначаецца, што пракуратура, упраўленне ўнутраных спраў аблвыканкома, судовыя органы вобласці і рэспублікі не забяспечвалі своечасовага раскрыцця злачынстваў, глыбокага і аб'ектыўнага расследавання і разгляду іх у судах.

Незаконна вынесеныя прыгаворы адменены, а адказныя работнікі праваахоўных органаў за халатныя адносіны да выканання сваіх службовых абавязкаў, незабеспячэнне сацыялістычнай законнасці пры расследаванні і судовым разглядзе крымінальных спраў прыцягнуты да строгай адказнасці. Выключаны з КПСС і вызвалены ад займаемых пасад былы пракурор БССР А. І. Магільніцкі, член Вярхоўнага суда БССР В. М. Выдрын. Былым кіраўнікам праваахоўных органаў рэспублікі камуністам Г. М. Жабіцкаму, А. Г. Бондару, В. Р. Макараву, Я. А. Чканікаву аб'яўлены строгія вымовы з занясеннем ва ўчотныя карткі. Чканікаў вызвален ад пасады міністра юстыцыі БССР.

### ЯК ДОМА

Другі навучальны год пачалі ў Гродзенскім прафесійна-тэхнічным вучылішчы юнакі з Мангольскай Народнай Рэспублікі.

Лета яны правялі на радзіме, дзе шмат расказвалі землякам аб сваім жыцці ў далёкім беларускім горадзе. А цяпер зноў вярнуліся ў Гродна, як у родны дом.

Разам з другакласнікамі прыбылі і навічкі — 25 юнакоў, якія скончылі ў Манголіі восем класаў. Яны таксама вырашылі авалодаць спецыяльнасцю электраманцёра сельскай электрыфікацыі і сувязі, каб працаваць з карысцю ў важнай для краіны галіне народнай гаспадаркі.

Новым навучэнцам быў аказаны самы сардэчны прыём. Іх размясцілі ў добрым інтэрнаце. На ўрачыстай лінейцы прысвечанай Дню ведаў, пазнаёмілі з вучылішчам, яго традыцыямі, матэрыяльнай базай.

### СЛУЖБА САЦЫЯЛЬНАЙ ДАПАМОГІ

Служба сацыяльнай дапамогі адзінокім і непрацаздольным людзям пачала дзейнічаць у рэспубліцы. У эксперыменце прымаюць удзел 36 аддзелаў сацыяльнага забеспячэння выканкомаў гарадскіх і раённых Саветаў народных дэпутатаў.

Служба аказвае самыя разнастайныя паслугі: дастаўляе прадукты і гарачыя абеды, медыкаменты, прамтавары, дапамагае здаць у рамонт рэчы. Пры неабходнасці работнікі службы суправаджаюць людзей у паліклініку, выконваюць мноства іншых просьбаў.

Задача новай службы заключаецца яшчэ і ў тым, каб аб'яднаць намаганні ўсіх, хто дапамагае адзінокім і хворым. У рэспубліцы на грамадскіх пачатках гэтым займаюцца калектывы больш чым шасці тысяч прадпрыемстваў і арганізацый, моладзь, школьнікі.

У хуткім часе службы сацыяльнай дапамогі будуць створаны пры ўсіх раённых аддзелах сацыяльнага забеспячэння рэспублікі.

### ДЛЯ ЗАХОДНЯЙ СІБІРЫ

У павільёне „Нафтавая прамысловасць“ Выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі СССР дэманструецца новая распрацоўка Гомельскага спецыяльнага канструктарска-тэхналагічнага бюро сейсмічнай тэхнікі — лубрыкатар для даследавання нафтавых свідравін. Яго выкарыстанне выключае цяжкую ручную працу і павышае ўзровень бяспекі пры правядзенні геафізічных даследаванняў нафтавых месцанараджэнняў. У канструкцыі выкарыстаны рад арыгінальных тэхнічных рашэнняў, абароненых аўтарскімі пасведчаннямі СССР на вынаходствы.

Лубрыкатар створаны спецыяльна для работы ва ўмовах Заходняй Сібіры — галоўнага нафтавага раёна Савецкай краіны. Па выніках доследных работ, якія праводзіліся сёлетняй вясной, адзін з узораў лубрыкатара да пачатку серыйнай вытворчасці перададзены ў прамысловую эксплуатацыю, дзе была адзначана высокая эксплуатацыйная надзейнасць новага абсталявання ў суровых умовах Заходняй Сібіры.

Шырокае ўкараненне новай распрацоўкі плануецца ў 1987 годзе. Эканомія ад выкарыстання яе ў розных нафтавых раёнах краіны складзе звыш паўтара мільёна рублёў штогод. Работа гамяльчан адзначана Дыпломам І ступені, залатым, сярэбраным і бронзавымі медалямі ВДНГ СССР.

## НА ЗАХАДЗЕ БЕЗ ПЕРАМЕН

### НЮРНБЕРГ — ГРОЗНАЯ ПЕРАСЦЯРОГА

Чатыры дзесяцігоддзі аддзяляюць нас сёння ад завяршэння работы міжнароднага ваеннага трыбунала ў Нюрнбергу, але вынесены ім суровы і справядлівы прыгавор па-ранейшаму прыцягвае неаслабную ўвагу ва ўсім свеце.

Другая сусветная вайна забрала жыцці звыш 50 мільёнаў чалавек. У гісторыі не было такой знішчальнай і варварскай вайны. Нечуваныя злачынствы, індустрыя чалавеказнішчэння ўвасабляліся гітлераўцамі ў канцэнтрацыйныя лагеры, душагубкі, крэматорыі, расстрэлы мірнага насельніцтва і ваеннапалонных.

Настойлівая патрэбнасць барацьбы супраць фашызму, які пагражаў свабодзе і прагрэсіўнаму развіццю ўсяго чалавецтва, дазволіла ўпершыню ў гісторыі стварыць міжнародны фронт розных сацыяльна-палітычных сіл. Утварэнне антыгітлераўскай кааліцыі аказала ўздзеянне на ўвесь далейшы ход вайны, прадэманстравала шырокія магчымасці ўсебаковага супрацоўніцтва дзяржаў з розным грамадскім ладам.

У адпаведнасці са статутам міжнароднага ваеннага трыбунала, 24 галоўным фашысцкім злачынцам было прад'яўлена абвінавачанне ў злачынствах супраць міру, ваенных злачынствах супраць чалавечнасці. У першыню ў асобе падсудных судзілі не толькі іх саміх, але і злачынныя ўстановы і арганізацыі, чалавеканенавісніцкія „тэорыі“ і „ідэі“.

Гістарычнае значэнне Нюрнбергскага працэсу ў тым, што ён пакараў верхаводаў трэцяга рэйха, залажыў новыя прынцыпы ў міжнародныя адносіны. У прыгаворы адзначана, што „развязванне агрэсіўнай вайны з'яўляецца не проста злачынствам міжнароднага характару. Яно з'яўляецца найцяжэйшым міжнародным злачынствам“.

Аднак прававыя прынцыпы статута і прыгавору Нюрнбергскага трыбунала сям-там спрабуюць звесці на нішто. Жорсткім нападкам падвяргаюць рашэнні трыбунала найбольш рэакцыйныя колы Федэратыўнай Рэспублікі Германіі. Насуперак фактам яны спрабуюць даказаць, што Нюрнбергскі працэс быў „актам помсты“, адмаўляць прававую аснову яго рашэнняў.

З жалем трэба канстатаваць, што ў галіне міжнароднага супрацоўніцтва па расследаванню і пакаранню былых нацыстаў, якія пражываюць у ФРГ, Канадзе, радзе іншых краін, былі і застаюцца вельмі значныя цяжкасці. Дыстанцыя велізарнага размеру — паміж словамі і наступнымі справамі амерыканскай адміністрацыі. Між тым, паводле паведамленняў друку, у ЗША цяпер пражываюць 10 тысяч нацысцкіх злачынцаў.

Нюрнберг — гэта не толькі апошняя кропка ў вайне з фашызмам, але і грозная перасцярога падпальшчыкам новай вайны, гэта перамога сіл розуму, дэмакратыі і прагрэсу, фундамент для далейшага мірнага развіцця Еўропы і іншых кантынентаў.

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 329

### ШУКАЙЦЕ КРЫНІЦУ!

Думкам дайце прастор,
шчыры,
чысты...
Хочаце ўзбіцца на вяршыні
гор —
— Адступіце месца
ў вашай пустэчы!
Не засланяйце недарэчнасцю
галізны,
Хай яна згіне,
у выдумку йдзе,
А прыгожы, чысты
вобраз чалавечы
Хай красуе і нясецца —
няма тут месца бядзе!
...Ямчэ спіце? Не буду будзіць.
Самі прачніцеся...
„Нам трэба душу!“
Душу згубілі?
„На раздарожжы яе згубілі!“
Ну, а галізны ямчэ
Не закрылі?

— ✲ —

На месяц спаглядаў
стаміўшыся,
І жах беднаму за сэрца сціскае.
— Ах, вы мае кветкі,
чаму вас май запаланіў?
Чаму матуля, не накарміўшы,
на свет пусціла...
... Дзіцём, вырваным з калыскі,
ўзрастаў —
— распужаны,
непрывабны.
Не без свайго прызнання,
ласкі цудатворчай
рашыў непрыкметнасць.
Ўзімку без трывог,
на рэчаіснасці мэт маіх,
— выбраўся.
... Дзецям распужаным —
— ласка.




## Мікола Сахарэвіч



*Сапраўднае маё прозвішча Дар'юш Фёнік. Нарадзіўся я 14.8.1968 г. у Бельску Падляшскім. Цяпер вучуся ў Бельскім Сельскагаспадарчым тэхнікуме. Жыву я ў Студзіводах, калісьці вёсцы, цяпер ужо частцы горада Бельска. Не пашчасціла мне вывучаць родную беларускую мову ў школе. Аднак, у 14-гадовым узросце я пачаў набіраць беларускае нацыянальнае свядомасці і самастойна вывучаць беларускую мову. У гэтым найбольш дапамагла „Ніва“. У пачатку 1985 года я ўступіў у БГКТ, цяпер таксама працую ў тэатральным калектыве „Парнас“.*

### БЫЦЬ ПАКРЫЎДЖАНЫМ

Крыўдзіце чалавека
назойлівым смехам,
душу выбіраеце,
каршуны ненасытныя.
Вам мала цела —
мазгоў хочацца,
Вам мала скуры —
ямчэ глыбей.
... Вечна сляпыя,
вечна нямыя,
Дзе ваша вера?
Дзе вашы вочы?

— ✲ —

Не верце падсудным
ды сакратаркам,
няпраўду гавораць, за горла
сціскаюць.
Яны, якія
душы не маюць,
яны, якія толькі
вылічаную суму знаюць,
безнадзейныя...
жахлівыя...
Праўда ёсць праўдай,
выгнеш яе —
зноў адаб'ецца,
Глянеш крыва —
з часам пакажа свой твар.
Не сумуй —
вер у чалавека.

— ✲ —

... І сніцца неба чыстае
з пераплётам рук...
— Я бачу птушак —
маіх чудакоў...
Нясуць мяне крылы
на вяршыні —
ні зыйсці, ні спусціцца.
Не хачу прачнуцца —
Хачу сніць сваю
рэчаіснасць.
... Застаньсяі
Пакарыся!
(Чалавеча, які ты недасканалы!)

**Мікола Сахарэвіч**

### ВОДАПРАВОД

*Жыхарам вёскі Мора прысвячаю*

Было калісь тут многа гора
І многа ўсякае бяды.
І як не дзіўна — ў маім Моры
Быў часты недахоп вады.

І на каромыслах насілі
Вёдры з натугаю здалёк,
І трацілі празмерна сілы,
Жыцця быў цяжкі кожны крок.

Жыццё змяняецца няспынна.
Аб гэтым нат не сніў народ:
Ад студні новае глыбіннай
Тут правялі водаправод.

І працавітыя сяляне
Кажуць: — Лягчэй нам стала
жыць.
Вадзіцу ў кожным маем кране,
Не трэба вёдрамі насіць.

**Віктар Швед**

— ✲ —

Залатой восенню
стаіць бяроза ў кастрах.

На другім беразе
ўсё цішэй ды цішэй
шалясціць лісцё.

У сіняве насталыгіі
дрэмле тапор часу.

Дарожка мая,
аддаляецца пачатак.
Усё бліжэй ды бліжэй
да канца.

**Юрка Баена**

— ✲ —

Ля ракі вякоў
сяджу
на ўзгорку мар згубленых
вочы пранікліва разгрызаюць
хвалі існасці
... часу ўжо сёння
не было ўчора выразнага
не было кветак у руцэ
малітвы на вуснах
—
чаму ўжо сёння

**Яніна Шостак**

# КАРУСЕЛЬ

Абвітыя ў сары, ідуць, як мурашкі,
Адна за другой па траве,
Замест капялюша — з цэментам таз
цяжкі
На кожнай стаіць галаве.

Змесціва з пасудзін скідаюць у яму,
Вяртаюцца зноў за другім.
І цягнецца круг іх далёка за браму —
Да самай крыніцы чаргі.

Так з самага ранку танцуюць жанчыны
У шлёпанцах, з голай ступнёй.
А сонца іх пражыць спякотай
пустыннай,
Пакрыўшы ўсе твары расой.

Фундамент будынка расце безупынна,
Выходзіць мясцамі з зямлі.
Жаночыя шыі хутчэй, як машыны,
У місках яго прынеслі.

Навокал мужчыны ляжаць і бастуюць,
На кукішках гуртам сядзяць;
Іх жонкі, дзяўчыны, як пчолы,
працуюць,
Будуюць багаты палац.

Нядаўна яны тут капалі канавы
На месцы, дзе вырасце дом,
Насілі за браму прывезены гравій
Насіць будуць цэглу і лом.

З-пад шаляў выходзяць іх доўгія шыі.
Малы і апалены твар.
Бавоўна не скрые іх целы худыя,
Якія згінае цяжар.

Усюды, дзе глянеш, жанчыны тут
носяць
Багаж на сваіх галавах.
Ён стаў, як саломінкам тонкім —
калоссе,
Да гібкіх фігур пасаваць.

**Д. Шатыловіч,**
Бакара, Індыя

* ✲ *

Абяцанай падзеяй
сном каляровым
у квяцістай сукенцы
з блакітам неба ў вачах
са слязьмі радасці і смутку
адплывае
босае
бестурботнае
кійком на пяску нарысаванае
дзяцінства
(частка казачнай краіны жыцця
чалавека).

**Ж. Мартынюк**

### АДКУЛЬ БЯРЭЦЦА ДУРНОТА?

Няма пэўнага адказу на пытанне, адкуль бярэцца дурнота. Усё не дае мне гэта спакою — тлумачэнні яе неадукаванасцю ёсць, аднак, павярхоўныя. Куды ж тады падзецца з прафесарам-дурнем?

Не больш дае таксама праўда пра адзічэласць бядоты раптоўным дабрабытам. Знаходзяцца такія, што, разжыўшыся на вілу, аўта і каханку, — не перастаюць пазнаваць людзей.

Бліжэй да ісціны тут лёгкасць нажывы, асабліва празмернай. У гэткі шанц, сапраўды, можна ашалець, калі бракуе арыстакратычнай вытрымкі. Патомнае ўбоства знакаміта асвятляе гэтыя няяснасці, але ўсё-такі дзякуючы таму, што ў гісторыі наогул ёсць гісторыя ежы, адзення і пасцелі.

Чалавека робіць дурнем і сітуацыя. І гэтак жа параўнанне: каму дурань, а каму і не.

І так пачынае быць без канца... Як з мудрасцю.

А ці без дурноты ведалі б мы разумнае?

Вялікі мудрэц і ёсць вялікі дурань. Няўпэўнены я толькі ў тым, ці дурань можа быць разумным. Хоць як быццам не пярэчыць гэта логіцы, і прыклады таго, здаецца, відаць...

Я ўсё шукаю адказу на пытанне, адкуль бярэцца дурнота.

**Сакрат Яновіч**

### АФАРЫЗМЫ

Зайздрасць — гэта дзіця неспакою і няўпэўненасці.

✲

Дзе дзве праўды, там або дзве паўпраўды, або праўда і хлусня.

✲

Кожны чалавек свой лёс выкоўвае сам — толькі з рознага матэрыялу.

**Рышард Бутайла**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# З ПАБЫЎКІ Ў ЛАСІНЦЫ

Школа ў Ласінцы месціцца ў старых будынках. Шмат трэба ўкладаць працы, каб утрымаць школьныя памяшканні ў належнай чысціні, каб умовы навучання былі магчымыя. Амаль штогод у школе трэба нешта памаляваць, направіць, наладзіць. І сёлета так было. Адзін са школьных будынкаў прайшоў капітальны рамонт. У яго памяшканнях цяпер чыста і прыемна.

Вельмі змянілася за гэтае лета і школьная спартыўная пляцоўка. Сіламі бацькоў і вучняў, пры дапамозе апекуна школы — мясцовага сельскагаспадарчага гуртка, сёлета пляцоўка была змеліяравана, выраўняна, засеяна травой. У канцы спартыўнай пляцоўкі знаходзіцца невялічкая плыткая сажалка, якая зімою будзе выкарыстоўвацца як школьны каток.

На маё пытанне, як працавалі вучні, дырэктар школы Яўген Абрамюк толькі сказаў: „Вясковыя дзеці ўмеюць працаваць. Гэта не якісь там абібокі!" Прыемна было пачуць такое. Дырэктар з Ласінкі не скоры на пахвалу. Ад яго такое пачуць — гэта ўжо не абы-што!

Першыя месяцы новага навучальнага года багаты ў школе рознымі мерапрыемствамі. У Ласінцы любяць вельмі экскурсіі і рэйды. Таму і Міжнародны дзень турыстыкі адзначылі таксама веласіпедна прагулкай у лес. Праехаліся, назбіралі грыбоў, вярнуліся з залатога асенняга лесу задаволеныя. Потым былі ўрачыстасці з нагоды Дня міліцыі, з Дня Войска Польскага. Традыцыйна адзначылі Дзень настаўніка. І ўсе гэтыя ўрачыстасці — з вершамі, песнямі. Наогул, спяваць у Ласінцы любяць. Нашы чытачы ўжо ведаюць, што вучні з Ласінкі не раз займалі першыя месцы на конкурсах беларускай песні. Сёлета таксама рыхтуюцца ўжо. Хор узяў пад сваё кіраўніцтва настаўнік музыкі Яўген Дудзіч. Чакаем у выкананні гэтага хору новых беларускіх песень.



Бася Кандрацюк і Януш Порап ля этнаграфічнага куточка. Януш прымервае, як бы ён выглядаў у нагавіцах Басінага дзеда Арцёма.

Настаўніца беларускай мовы Ніна Абрамюк разам з вучнямі правяла па вёсцы збор экспанатаў народнай творчасці. Цяпер найбольшы ў школе класны пакой упрыгожваюць вышываныя ручнікі, саматканыя спадніцы і нагавіцы, а ў зашклёнай шафе — саматобныя лыжкі, ступкі, цэбрыкі, збанкі-глякі і двайкі-спарышы і шмат іншых цікавых рэчаў. Найбольш экспанатаў прынесла васьмікласніца Бася Кандрацюк. Ад сваёй роднай бабулі Тэклі Мінюк яна прынесла саматканую спадніцу-парцянік, ад дзеда Арцёма Мінюка — саматканыя нагавіцы, ад суседкі Наталлі Баўтрамюк Бася пазычыла вышываны вельмі стары ручнік. Цяпер дзяўчынка рыхтуе на выстаўку старую бабуліну сарочку з карункамі, у якой бабуля брала яшчэ шлюб. У свайго другога дзеда Сцяпана Кандрацюка Бася знайшла збанкі-дваянчыкі. Шмат цікавых саматобных вырабаў прынёс у школу сямікласнік Януш Порап і іншыя дзеці. Этнаграфічны збор у школе працягваецца. Такім чынам дзеці не толькі пазнаюць народную культуру сваіх ваколіц, але і вучацца цаніць усё тое, што выраблялі і чым карысталіся іх дзяды і прадзеды, а значыць, вучацца шанаваць родную культуру, спадчыну свайго народу.



Адзін са школьных будынкаў, які сёлета быў прыгожа адмаляваны.

Яніна Чэрнякевіч
Фота аўтара

## НОВАЯ КНІЖАЧКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

*У жніўні „Зорка" пісала аб юбілеі васьмідзесяцігоддзя вялікага сябра дзяцей, паэта* **Сяргея Новіка-Пеюна.** *Тады ж мы паведамлялі, што рыхтуецца ў друку яго кніжачка „Зорачкі ясныя". Прыемна нам паведаміць, што гэтая кніжачка ўжо ёсць. Рэдакцыя „Нівы" і „Зорка" атрымала яе ў падарунку ад аўтара. Сардэчна дзякуем і прадстаўляем чытачам некалькі вершаў з гэтай кніжачкі. А для чытачоў дадаем, што „Зорачкі ясныя" вельмі прыгожа ілюстраваны і прызначаны для самых малодшых чытачоў.*

### НОЧКА

Сонца палючае,
Сонца жывучае
Скончыла дзённы абход.
Зорачкі ясныя,
Зоркі бліскучыя
Ў небе вядуць карагод.
Месячык беленькі,
Месячык чысты
З хмарак свой твар паказаў
У рэчцы спакойнай,
У рэчцы празрыстай
Хор вадзяны запяяў.
Дрэўцы купчастыя,
Дрэўцы зялёныя
Ў люстра глядзяцца вады.
Жабкі рухлівыя,
Жабкі вясёлыя
Скачуць туды і сюды.
Летняя ночка,
Як маці, калыша
Стомлены працай народ.
Зорачкі ясныя,
Зоркі бліскучыя
Ў небе вядуць карагод.

* * *

Месяц мые ў ставе твар
Ды купаецца.
Ручніком з пуховых хмар
Выціраецца.

### НАШ САД

Зіхаціць на сонцы сад
Залатым пажарам,
Быццам выйшаў на парад
Ён з асеннім дарам.

У паветры зжоўклы ліст
Кружыцца дукатам,
Засцілаючы зямлю
Дыванам стракатым.

Зарадзіў нішто садок
Яблыкаў ды грушаў!
Смачны з іх мы зробім сок,
На зіму насушым.

### РАНІЦАЙ

Эх, насыпала праз ночку
Многа белага сняжочку!
Віснуць голькі дрэў уніз —
Гэтак снег на іх павіс.

Нібы ў казачнай красе —
У зімовай сад расе.
Каб на цуды падзівіцца,
Прыляцеў снягір з сініцай.

Мілым птушачкам я рад,
Дам ім прыгаршчы зярнят.
Хай шчабечуць пад акном,
Покуль зноў вясны прыйдзе.

## СЛУХАЕМ І СПЯВАЕМ

**Змяшчаем словы песні, якую вы пачуеце ў беларускай перадачы па Беластоцкім радыё ў суботу 1 лістапада а 18-ай гадзіне.**

### ЗЯМЛЯ, ТЫ ТАКАЯ ВЯЛІКАЯ

**(З рэпертуару „Сяброў“)**

**Зямля, ты такая вялікая,**
**Зямля, ты такая прасторная,**
**Што да акіяна, да Ціхага**
**Не дойдзеш за год з Мора Чорнага.**

**Прыпеў:**
**Не раз, горкім дымам засланая,**
**Вякамі ты зналася з бедамі,**
**Але ж мы завёмся зямлянамі**
**І лепшай планеты няма.**

**Ты нават у сэрцы не ўмесцішся**
**Лясамі з грыбамі, арэхамі,**
**Сваімі садамі пад месяцам,**
**Сваімі азёрамі, рэкамі.**

**Прыпеў.**

**Вялікая, светлая, росная**
**Была неаднойчы знявечанай,**
**Ды перад сучаснай пагрозаю**
**Здаешся маленькай, не вечнаю.**

**Прыпеў.**

## РОЗНЫЯ ПУНКТЫ ГЛЕДЖАННЯ

Адзін сказаў:
— На жаль, сябры бываюць фальшывыя.
Другі сказаў:
— На жаль, ворагі бываюць сапраўдныя.

## НЕ БАЧЫЎ

— З'еш, сынок, яблык — у ім вітамінаў многа!
— Учора я ажно пяць з'еў, а ніякіх вітамінаў не бачыў!




— Гэта не этыкеткі, гэта наклейкі з бутэлек віскі.

# НІЎКА



## ЗДЗІЎЛЕННЕ

Слава (пяць гадоў) размаўляе з татам:
— Зямля была яшчэ даўным-даўно?
— Так.
— І на ёй нікога не было?
— Не было.
— А як жа першы чалавек без мамы жыў?

## ПРЫЧЫНА

— Вам трэба спаць не на левым, а на правым баку, — раіць лекар задрыпанцы.

— Гэта немагчыма, доктар. Мой муж ува сне размаўляе, а я на левае вуха кепска чую.

## УСМЕШКІ ФІЛОСАФАЎ

У Дыягена запыталіся:
— У які час трэба снедаць?
— Калі багаты, дык калі захочаш, а калі бедны, дык калі зможаш, — адказаў філосаф.

## НА СПАБОРНІЦТВАХ

У час спаборніцтва барцоў адзін плэпча на вуха другому:

— Калі ты абавязкова хочаш выкінуць мяне за дыван, дык кінь, калі ласка, на каленні вунь той бландзінцы ў другім радзе.



Працу любіў платанічна. Нават не збіраўся да яе дакрануцца.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

**Англія**

— Афіцыянт, мне здаецца, што ў мінулую нядзелю ў вас была больш свежая рыба.
— Запэўніваю вас, гэта тая ж самая рыба, сэр.

**Францыя**

— Афіцыянт, мне здаецца, што ў мінулую нядзелю ў вас была больш свежая рыба.
— Запэўніваю вас, гэта тая ж самая рыба, месье.

**Іспанія**

— Афіцыянт, мне здаецца, што ў мінулую нядзелю ў вас была больш свежая рыба.
— Запэўніваю вас, гэта тая ж самая рыба, дон.

## ВЫЛЕЧЫЎ

— А, прывітанне, Ясь!
Табе я сёння
Мо сёмы раз
Званю па тэлефоне.
Што здарылася?
— Ды хворы трэці дзень.
„Рэжым пасцельны“,
Маю бюлетэнь.
Хвароба не на жарты
Гне ў дугу,
Страляе ў локаць,
Аддае ў нагу.
— Шкада...
Сабраліся сябры да нас,
Каб разам пагуляць
У прэферанс.
Ды вось чацвёртага
Знайсці я не магу...
— Ты што?!
Не пачынайце,
Я бягу!!!

**Уладзімір Мацвеенка**

**З „Весніка Задрыпоніі“**

## МОЦНАЯ СЯМ'Я

Звыш пяцідзесяці год любяць адзін другога Падкавюкі. З іх трыццаць год любіць жонка, а дваццаць муж.

## НА ЎЛАСНЫМ ВОПЫЦЕ

Тры пары абутку знасіў Фялюга, бегаючы па магазінах у пошуках чацвёртай пары, зручнай і моднай. Цяпер ён перакананы, што калькасць абавязкова пераходзіць у якасць.




Пераможцы.







# Курёзы

## ПЕРАДЫХНУЦЬ ХОЧАЦЦА

Дзелавыя амерыканцы заўсёды спяшаюцца. Ды, як вядома, дзеянне выклікае процідзеянне, і шалёны тэмп жыцця ў ЗША спрыяў таму, што там з'явіўся „Клуб аматараў павольнасці“.

Аб'ядноўвае ён ужо звыш паўмільёна чалавек.

Члены клуба кіруюцца двума лозунгамі-правіламі: „Не спяшайся!“ і „Не рабі сёння таго, што можна з поспехам зрабіць заўтра“. Яны рашуча не прызнаюць экспрэсссталовак, а своечасовую аплату клубных членскіх складчын лічаць за непрыстойнасць.

## З КНІГІ ГІНЕСА

33-гадовы англічанін Ян Маулд на адпаведных спаборніцтвах у горадзе Фрэмптане за 39 секунд з'еў амаль паўкіло смажаных вугроў адразу ж. Амерыканец са штата Мэрыленд Томас Грын з'еў за дзве з паловаю мінуты кілаграм вустрыц — каля 200 штук.




**Кідаць гропы на вецер можна, калі ён дзьме ў ваш бок.**